Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

15 чэрвеня 1991 г. СУБОТА

№ 116 (21644)

Цана 10 кап.

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб праекце Саюзнага дагавора

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама інфармацыю намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР тав. Шаладонава В. І. аб рабоце камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па падрыхтоўцы праекта Саюзнага дагавора і вызначэнню парадку яго заключэння, утворанай пастановай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 19 лютага 1991 года.

2. Адобрыць асноўныя палажэнні праекта дагавора аб Саюзе Суверэнных Рэспублік, падрыхтаванага паўнамоцнымі прадстаўнікамі рэспублік, дапрацаванага на пасяджэнні Савета федэрацыі СССР і падрыхтоўчага камітэта ў чэрвені 1991 года. Захаваць у праекце дагавора артыкул, які вызначае дадатак да дагавора.

3. Даручыць камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па падрыхтоўцы праекта Саюзнага дагавора і вызначэнню парадку яго заключэння абагульніць прапановы і заўвагі пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, народных дэпутатаў, працоўных Беларускай ССР і ўлічваць іх у працэсе ўзгаднення канчатковай рэдакцыі праекта Саюзнага дагавора.

4. Даручыць падпісаць Саюзны дагавор ад імя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР тав. Дзямянцею М. І. У працэдуры падпісання дагавора прыняць удзел членам камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па падрыхтоўцы праекта Саюзнага дагавора і вызначэнню парадку яго заключэння.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

12 чэрвеня 1991 г., г. Мінск.

# ДАГАВОР АБ САЮЗЕ СУВЕРЭННЫХ ДЗЯРЖАЎ

*Праект, падрыхтаваны паўнамоцнымі прадстаўнікамі рэспублік, дапрацаваны на пасяджэнні Савета Федэрацыі СССР і Падрыхтоўчага камітэта ў чэрвені 1991 года*

Дзяржавы — удзельніцы Дагавора,

зыходзячы з абвешчаных імі Дэкларацый аб суверэнітэце і прызнаючы права нацый на самавызначэнне;

улічваючы блізкасць гістарычных лёсаў сваіх народаў і выконваючы іх волю да захавання і абнаўлення Саюза, выяўленую на рэферэндуме 17 сакавіка 1991 года;

імкнучыся жыць у дружбе і згодзе, забяспечваючы раўнапраўнае супрацоўніцтва;

жадаючы стварыць умовы для ўсебаковага развіцця кожнай асобы і надзейныя гарантыі яе правоў і свабод;

клапоцячыся аб матэрыяльным дабрабыце і духоўным развіцці народаў, узаемаўзбагачэнні нацыянальных культур, забеспячэнні агульнай бяспекі;

атрымліваючы ўрокі з мінулага і прымаючы да ўвагі змяненні ў жыцці краіны і ва ўсім свеце;

вырашылі на новых асновах пабудаваць свае адносіны ў Саюзе і дамовіліся аб ніжэйпададзеным.

## I. АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ

**Першае.** Кожная рэспубліка — удзельніца Дагавора — з'яўляецца суверэннай дзяржавай. Саюз Савецкіх Суверэнных Рэспублік (СССР) — суверэнная федэратыўная дэмакратычная дзяржава, якая ўтворана ў выніку аб'яднання раўнапраўных рэспублік і ажыццяўляе дзяржаўную ўладу ў межах паўнамоцтваў, якімі яе дабраахвольна надзяляюць удзельнікі Дагавора.

**Другое.** Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, захоўваюць за сабой права на самастойнае вырашэнне ўсіх пытанняў свайго развіцця, гарантуючы роўныя палітычныя правы і магчымасці сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця ўсім народам, якія пражываюць на іх тэрыторыі. Удзельнікі Дагавора будуць зыходзіць са спалучэння агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей, рашуча выступаць супраць расізму, шавінізму, нацыяналізму, любых спроб абмежавання правоў народаў.

**Трэцяе.** Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, лічаць важнейшым прынцыпам прыярытэт правоў чалавека ў адпаведнасці з усеагульнай Дэкларацыяй правоў чалавека ААН, іншымі агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права. Усім грамадзянам гарантуюцца магчымасць вывучэння і выкарыстання роднай мовы, бесперашкодны доступ да інфармацыі, свабода веравызнання, іншыя палітычныя, сацыяльна-эканамічныя, асабістыя правы і свабоды.

**Чацвёртае.** Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, бачаць важнейшую ўмову свабоды і дабрабыту народа і кожнага чалавека ў фарміраванні цывільнага грамадства. Яны будуць імкнуцца да задавальнення патрэбнасцей людзей на аснове свабоднага выбару форм уласнасці і метадаў гаспадарання, развіцця агульнасаюзнага рынку, рэалізацыі прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці і абароненасці.

**Пятае.** Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, валодаюць усёй паўнатой палітычнай улады, самастойна вызначаюць сваё нацыянальна-дзяржаўнае і адміністрацыйна - тэрытарыяльнае ўпарадкаванне, сістэму органаў улады і кіравання. Яны могуць дэлегаваць частку сваіх паўнамоцтваў іншым дзяржавам — удзельніцам Дагавора, у састаў якога ўваходзяць.

Удзельнікі Дагавора прызнаюць агульным фундаментальным прынцыпам дэмакратыю, заснаваную на народным прадстаўніцтве і прамым волевыяўленні народаў, імкнуцца да стварэння прававой дзяржавы, якая б служыла гарантам супраць любых тэндэнцый да таталітарызму і самавольства.

**Шостае.** Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, лічаць адной з важнейшых задач захаванне і развіццё нацыянальных традыцый, дзяржаўную падтрымку адукацыі, аховы здароўя, навукі і культуры. Яны будуць садзейнічаць інтэнсіўнаму абмену і ўзаемаабагачэнню гуманістычнымі духоўнымі каштоўнасцямі і дасягненнямі народаў Саюза і ўсяго свету.

**Сёмае.** Саюз Савецкіх Суверэнных Рэспублік выступае ў міжнародных адносінах у якасці суверэннай дзяржавы, суб'екта міжнароднага права — пераемніка Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Яго галоўнымі мэтамі на міжнароднай арэне з'яўляюцца трывалы мір, раззбраенне, ліквідацыя ядзернай і іншай зброі масавага знішчэння, супрацоўніцтва дзяржаў і салідарнасць народаў у вырашэнні глабальных праблем чалавецтва.

Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, з'яўляюцца паўнапраўнымі членамі міжнароднага таварыства. Яны маюць права ўстанаўліваць непасрэдныя дыпламатычныя, консульскія, гандлёвыя і іншыя сувязі з замежнымі дзяржавамі, абменьвацца з імі паўнамоцнымі прадстаўніцтвамі, заключаць міжнародныя дагаворы і ўдзельнічаць у дзейнасці міжнародных арганізацый, не ўшчамляючы інтарэсы кожнай з саюзных дзяржаў і іх агульныя інтарэсы, не парушаючы міжнародныя абавязацельствы Саюза.

## II. БУДОВА САЮЗА

**Артыкул 1. Членства ў Саюзе**

Членства дзяржаў у Саюзе з'яўляецца добраахвольным.

Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, уваходзяць у яго непасрэдна або ў саставе іншых дзяржаў. Гэта не ўшчамляе іх правоў і не вызваляе ад абавязкаў па Дагавору. Усе яны валодаюць роўнымі правамі і нясуць роўныя абавязкі.

Адносіны паміж дзяржавамі, адна з якіх уваходзіць у састаў іншай, рэгулююцца дагаворамі паміж імі і іх канстытуцыямі.

Саюз адкрыты для ўступлення ў яго іншых дэмакратычных дзяржаў, якія прызнаюць Дагавор.

Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, захоўваюць права свабоднага выхаду з яго ў парадку, устаноўленым удзельнікамі Дагавора і замацаваным у Канстытуцыі і законах Саюза.

**Артыкул 2. Грамадзянства Саюза**

Грамадзянін дзяржавы, якая ўваходзіць у Саюз, з'яўляецца адначасова грамадзянінам Саюза.

Грамадзяне Саюза ССР маюць роўныя правы, свабоды і абавязкі, замацаваныя Канстытуцыяй, законамі і міжнароднымі дагаворамі Саюза.

**Артыкул 3. Тэрыторыя Саюза**

Тэрыторыя Саюза складаецца з тэрыторый усіх дзяржаў, якія яго ўтвараюць.

Удзельнікі Дагавора прызнаюць граніцы, якія існуюць паміж імі на момант падпісання Дагавора.

Граніцы паміж дзяржавамі, што ўтвараюць Саюз, могуць змяняцца толькі на пагадненню паміж імі, якое не парушае інтарэсы іншых удзельнікаў Дагавора.

**Артыкул 4. Адносіны паміж дзяржавамі, якія ўтвараюць Саюз**

Адносіны паміж дзяржавамі, якія ўтвараюць Саюз, рэгулююцца гэтым Дагаворам, Канстытуцыяй СССР, дагаворамі і пагадненнямі, якія не супярэчаць ім.

Удзельнікі Дагавора ствараюць свае ўзаемаадносіны ў саставе Саюза на аснове раўнапраўя, павагі да суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці, неўмяшання ва ўнутраныя справы, вырашэння спрэчак мірнымі сродкамі, супрацоўніцтва, узаемадапамогі, добрасумленнага выканання абавязкаў па Саюзнаму дагавору і міжрэспубліканскіх пагадненнях.

Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, абавязваюцца: не прыбягаць у адносінах паміж сабой да сілы і пагрозы сілай; не пасягаць на тэрытарыяльную цэласнасць адна адной; не дапускаць размяшчэння на сваёй тэрыторыі ўзброеных фарміраванняў і ваенных баз замежных дзяржаў; не заключаць пагадненняў, якія супярэчаць мэтам Саюза або накіраваны супраць утвараючых яго дзяржаў.

Не дапускаецца выкарыстанне Узброеных Сіл Саюза ўнутры краіны, акрамя іх удзелу ў ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў і экалагічных катастроф, а таксама выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам аб рэжыме надзвычайнага становішча.

**Артыкул 5. Сфера ведання Саюза ССР**

Удзельнікі Дагавора надзяляюць Саюз ССР наступнымі паўнамоцтвамі:

— Абарона суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Саюза; аб'яўленне вайны і заключэнне міру; забеспячэнне абароны і кіраўніцтва Узброенымі Сіламі, пагранічнымі, унутранымі, чыгуначнымі войскамі Саюза; арганізацыя і кіраўніцтва распрацоўкай і вытворчасцю ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі.

— Забеспячэнне дзяржаўнай бяспекі Саюза; устанаўленне рэжыму і ахова Дзяржаўнай граніцы, марской і паветранай прасторы Саюза; каардынацыя дзейнасці органаў бяспекі рэспублік.

— Ажыццяўленне знешняй палітыкі Саюза і каардынацыя знешнепалітычнай дзейнасці рэспублік; прадстаўніцтва Саюза ў адносінах з замежнымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі; заключэнне міжнародных дагавораў Саюза.

— Ажыццяўленне знешнеэканамічнай дзейнасці Саюза і каардынацыя знешнеэканамічнай дзейнасці рэспублік; прадстаўніцтва Саюза ў міжнародных эканамічных і фінансавых арганізацыях, заключэнне знешнеэканамічных пагадненняў Саюза.

— Зацвярджэнне і выкананне саюзнага бюджэту, ажыццяўленне грашовай эмісіі; захоўванне залатога запасу, алмазнага і валютнага фондаў Саюза; кіраўніцтва касмічнымі даследаваннямі, агульнасаюзнымі сістэмамі сувязі і інфармацыі, геадэзіі і картаграфіі, метралогіі і стандартызацыі; кіраванне атамнай энергетыкай.

— Прыняцце Канстытуцыі Саюза, унясенне ў яе змяненняў і дапаўненняў; прыняцце законаў у рамках паўнамоцтваў Саюза і ўстанаўленне асноў заканадаўства па пытаннях, якія ўзгоднены з рэспублікамі; вышэйшы канстытуцыйны кантроль.

— Кіраўніцтва дзейнасцю федэральных праваахоўных органаў і каардынацыя дзейнасці праваахоўных органаў Саюза і рэспублік па барацьбе са злачыннасцю.

**Артыкул 6. Сфера сумеснага ведання Саюза і рэспублік**

Органы дзяржаўнай улады і кіравання Саюза і рэспублік ажыццяўляюць сумесна наступныя паўнамоцтвы:

— Абарона канстытуцыйнага ладу Саюза, заснаванага на гэтым Дагаворы і Канстытуцыі СССР; забеспячэнне правоў і свабод грамадзян СССР.

— Вызначэнне ваеннай палітыкі Саюза, ажыццяўленне мерапрыемстваў па арганізацыі і забеспячэнню абароны; устанаўленне адзінага парадку прызыву і праходжання воінскай службы; вырашэнне пытанняў, звязаных з дзейнасцю войск і дыслакацыяй ваенных аб'ектаў на тэрыторыі рэспублік; арганізацыя мабілізацыйнай падрыхтоўкі народнай гаспадаркі; кіраванне прадпрыемствамі абароннага комплексу.

— Вызначэнне стратэгіі дзяржаўнай бяспекі Саюза і забеспячэнне дзяржаўнай бяспекі рэспублік; змяненне дзяржаўнай граніцы Саюза са згоды адпаведнага Удзельніка Дагавора; ахова дзяржаўных сакрэтаў; вызначэнне пераліку стратэгічных рэсурсаў і вырабаў, якія не падлягаюць вывазу за межы Саюза; устанаўленне агульных прынцыпаў і нарматываў у галіне экалагічнай бяспекі; устанаўленне парадку атрымання, захоўвання і выкарыстання матэрыялаў, якія расшчапляюцца, і радыеактыўных матэрыялаў.

— Вызначэнне знешнепалітычнага курсу Саюза ССР і кантроль за яго правядзеннем; абарона правоў і інтарэсаў грамадзян СССР, правоў і інтарэсаў рэспублік у міжнародных адносінах; устанаўленне асноў знешнеэканамічнай дзейнасці; заключэнне пагадненняў аб міжнародных пазыках і крэдытах, рэгуляванне знешняга дзяржаўнага доўгу Саюза; адзіная таможная справа; ахова і рацыянальнае выкарыстанне прыродных багаццяў эканамічнай зоны і кантынентальнага шэльфа Саюза.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### АБ ВЫБРАННІ СТАРШЫНІ ВЫШЭЙШАГА ГАСПАДАРЧАГА СУДА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Выбраць старшынёй Вышэйшага гаспадарчага суда Беларускай ССР таварыша **Бойку** Уладзіміра Васільевіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

5 чэрвеня 1991 г. г. Мінск.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

Мінск

### СЯРОД ВАСЬМІ ЛЕПШЫХ — «ПАРЭЧЧА»

**ГРОДНА. У горадзе нядаўна пачаў дзейнічаць новы гасразліковы аддзел па турызму «Белміжкалгасздраўніцы». Яго галоўная задача — зарабляць грошы для паляпшэння ўмоў адпачынку сельскіх працаўнікоў.**

Вытворчай базай для новай фірмы стаў вядомы ў рэспубліцы санаторый «Парэчча». Сюды па дамоўленасці з «Інтурыстам» у хуткім часе паедуць на адпачынак і замежныя грамадзяне — з Польшчы, Даніі, Нарвегіі, для іх выдзяляецца 40 месц. Заробленая валюта, зразумела ж, не будзе лішняй.

У санаторыі заканчваецца абсталяванне айчыннай і замежнай апаратурай новага дыягнастычнага цэнтра. Дарэчы, па ўсёй краіне налічваецца толькі восем такіх цэнтраў. Вяскоўцы змогуць абследавацца тут бясплатна.

У экспазіцыі рэспубліканскай выстаўкі «Майстар і традыцыя» ў мінскім Палацы мастацтва сярод іншых экспанатаў выклікаюць вялікую цікавасць работы інжынера-электрыка Аляксандра ГРЭСЯ. Ён з захапленнем працуе з саломкай і лазой. Гэта майстэрства ён пераняў у бацькі і дзеда.

**Фота Я. КАЗЮЛІ. (БЕЛТА).**

СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ

### ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР ЗАГАВОРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

**Учора ў Мінску пачаўся II з'езд ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**— Ужо ўвосень вы будзеце слухаць мае выступленні на беларускай мове, — запэўніў Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч дэлегатаў II з'езда Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, які адкрыўся ўчора ў Мінску ў Доме літаратара. Пад гучныя воплескі прэм'ер-міністру, а таксама двум іншым з высокіх гасцей з'езда — намесніку Старшыні Савета Міністраў М. Дземчуку і міністру культуры Я. Вайтовічу былі ўручаны членскія білеты сяброў ТБМ.**

Можна меркаваць, што Вячаслаў Францавіч спраўдзіць сваё абяцанне, — на карысць гэтага гаворыць добрае беларускае вымаўленне, якое паказаў ён у сваім кароткім прывітальным слове на з'ездзе, а таксама вясковая беларускамоўная дзесяцігодка за плячыма лідэра ўрада. В. Кебіч выказаў думку, што ёсць сэнс падумаць пра тое, каб у структурах Саветаў усіх узроўняў стварыць спецыяльныя органы, якія б займаліся выключна беларусізацыяй. Калі такая прапанова стане рэальнасцю, то, на маю думку, гэта будзе значыць для ўкаранення беларускай мовы не менш, чым прыняцце Закона аб мовах. Бо закон не працуе ў многім з-за таго, што няма добрага рухавіка, які б прывёў яго ў дзеянне. Такім рухавіком якраз і маглі б стаць спецыяльныя камісіі ў структуры органаў улады.

Прапанова В. Кебіча была адказам на шматлікія нараканні на марудлівасць, што прагучалі пры адкрыцці з'езда ў прамовах старшыні ТБМ Н. Гілевіча і члена сакратарыята Рэспубліканскай рады ТБМ Л. Лыча.

На з'ездзе гаварылася і аб тым, што КПБ у апошні час усё больш паварочваецца тварам да беларускай мовы.

У выступленні Н. Гілевіча адметнай была думка пра тое, што памыляецца той, хто мяркуе, нібы БНФ — гэта той рух, які аб'ядноўвае выключна прыхільнікаў роднай мовы. Радыкальныя левыя сілы, як і кансерватыўныя правыя, на думку Ніла Сямёнавіча, аднолькава раўнадушныя да лёсу мовы. Развагі пра тое, што спачатку трэба здабыць свабоду, а потым думаць пра адраджэнне мовы — бесперспектыўныя.

— Вам трэба свабода, дзе не будзе гучаць беларуская мова? — задаў лідэр ТБМ з трыбуны рытарычнае пытанне. І сам жа адказаў на яго:

— Мне такая свабода не патрэбна!

**В. ЖДАНКО, кар. «Звязды».**

## ДЛЯ БЕСПРАЦОЎНЫХ — 1 ПРАЦЭНТ

Прыняты нядаўна Вярхоўным Саветам БССР «Закон аб занятасці» стаў тэмай семінара, які прайшоў 13—14 чэрвеня ў Інстытуце паліталогіі з удзелам работнікаў абласных, гарадскіх, раённых аддзелаў па працы, службаў занятасці. Семінар-семінарам, а нас больш цікавіць невялікая прэс-канферэнцыя, якая адбылася 13 чэрвеня. У ёй прынялі ўдзел старшыня Дзяржкампрацы Г. Бадзей, старшыня парламенцкай камісіі па цэнах і сацыяльнай абароне насельніцтва А. Сасноў.

Па-першае, трэба нагадаць, што мы прывыклі жыць заднім розумам і чакаць, пакуль не грымне гром. З гэтага пункту гледжання становяцца зразумелымі тыя цяжкасці, з якімі прымаўся Закон аб занятасці, а асабліва некаторыя яго палажэнні, аб чым паведаміў А. Сасноў. Некаторыя з дэпутатаў разважалі так: на маім прадпрыемстве, у калгасе і г. д. свабодных месц больш, чым занятых, значыць, адкуль узяцца беспрацоўным? Адсюль вынікае: служба занятасці — яшчэ адна служба для лайдакоў.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ранейшае наша жыццё дае падставы для такога ходу думак. Не дзіўна, што пытанне аб тым, што фонд занятасці фарміруецца шляхам адлічэння 3 працэнтаў ад фонду аплаты працы прадпрыемстваў тройчы ставілася на галасаванне і тройчы было правалена. Дэпутаты сышліся на 1 працэнце.

Г. Бадзей падрабязна спыніўся на тым, хто будзе клапаціцца аб нас, калі мы страцім работу і якая структура для гэтага створана. Апрача Дзяржкампрацы, ужо існуюць дзве незалежныя (адносна, бо імі кіруюць намеснікі старшыні) службы: занятасці і экспертызы ўмоў працы. Апошняя, дарэчы, «запусціла пробны шар» — вядзе экспертызу на Гомельскім шклозаводзе. Дзяржаўная служба занятасці будзе фінансавацца з фонду занятасці. Тут, праўда, не зусім зразумела: навошта яшчэ адна служба, у многім паралельная аддзелам па працы? Размяркоўваць фонд занятасці? Калі мае сумненні беспадстаўныя, няхай мяне ў гэтым пераканаюць.

Рэспубліка, лічыць Г. Бадзей, апераджае іншыя рэгіёны і Саюз у цэлым. У прыватнасці, прыняты Закон аб індэксацыі. У той жа час, праекты пастаноў па пытаннях занятасці — пакуль толькі праекты. Выкажу мімаходзь яшчэ адно сумненне: нават калі пастановы будуць прыняты заўтра — што зменіцца? Канешне, прававая аснова ёсць, будзе канкрэтны парадак, але як са сродкамі? Трэба памятаць, што прадпрыемствы да канца гэтага года будуць адлічваць у фонд занятасці 1, а не 3 працэнты. Нездарма з месца старшыню спыталі: ці можна падняць прэстыж службы занятасці, калі яе работнікі атрымліваюць 250—300 рублёў?

«Прэстыж прафесіі, — адказаў старшыня Дзяржкампрацы, — вымяраецца не толькі грашыма», чым выклікаў у зале вясёлае ажыўленне.

Здаецца, пытанне рэформы заработнай платы, на якім спыніўся намеснік старшыні Дзяржкампрацы В. Радомскі, не ўпісвалася ў тэму семінара. Але гэта толькі на першы погляд. Дзе б, хто і калі ні працаваў, ён перш за ўсё пытае, колькі будуць плаціць. І правільна робіць.

Некаторыя прынцыповыя моманты рэформы заработнай платы. Мяркуецца зыходзіць з таго, што зарплата не можа быць абмежавана. Прадпрыемствам трэба прадаставіць максімальную свабоду ў пытаннях зарплаты. Адначасова павінен быць устаноўлены гарантаваны дзяржавай узровень мінімальнай зарплаты, зыходзячы з кошту спажывецкага кошыка. (Ён, дарэчы, зараз вызначаны ў размеры 265 рублёў, праўда, афіцыяльна не зацверджаны). Мы выходзім на вызначэнне новага кошту рабочай сілы. Галоўны крытэрый тут — яе ўзнаўленне. Інакш кажучы, чалавек павінен зарабляць столькі, каб мець магчымасць купіць усё, што патрэбна для жыцця яму і яго сям'і. Не трэба, канешне, пераацэньваць сказанае, бо аб'ём работы для здзяйснення намечанага — каласальны. Прасцей кажучы, для гэтага трэба перайсці на рыначную мадэль існавання.

Калі браць па «гамбургскаму рахунку», то рэформа зарплаты накіравана на тое, каб, урэшце, наблізіць нас да Амерыкі і іншых цывілізаваных краін. Хоць бы па ўзроўню зарплаты. Цікава, што В. Радомскаму задалі характэрнае пытанне: ці праўда, што працуючым у Савецкім Саюзе выплачваецца 15—30 працэнтаў ад заробленага? «Афіцыяльных абвяржэнняў на гэта я не чуў, — адказаў ён. — Гэта ісцінная праўда». Пытанне, зразумела, некалькі наіўнае, калі нагадаць, што медыцына, адукацыя ў нас бясплатныя. Для нас, лічыцца, бясплатныя, а не для дзяржавы, якая на іх утрыманне пазычае з нашай зарплаты. Амерыканцы на зарплату выкарыстоўваюць да 60 працэнтаў валавога нацыянальнага даходу, мы — каля 20. Але амерыканцы за ўсё плацяць. Невялікая такая розніца. Што рабіць? Рыхтаваць рэформы. Але абавязкова комплексна. 2 красавіка больш паўтараць не трэба.

**С. ШАЎЦОЎ.**

## Чарнобыль: пошук ісціны ці палітыка?

Шосты год усе справы ў рэспубліцы разглядаюцца праз прызму Чарнобыля: ацэньваюцца палітыкі, даюцца характарыстыкі. Чарнобыль, па балючаму прызнанню аднаго з нашых высокіх кіраўнікоў, — гэта лёс. Можна змірыцца з лёсам, можна каторы раз яго выпрабоўваць, але няма на каго спісаць уласную няшчырасць, прыстасавальніцтва, боязь высокага начальства на шкоду ўласнаму народу — калі яны былі.

Кім жа былі мы ў тыя горкія чарнобыльскія гады, кім застаёмся цяпер — левыя і правыя — перад незгасаючым зарывам бяды?

Разабрацца ў гэтым справавалі дэпутаты, слухаючы і абмяркоўваючы справаздачу часовай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па ацэнцы дзейнасці службовых і іншых адказных асоб у сувязі з ліквідацыяй вынікаў аварыі на ЧАЭС.

Што напрацавала камісія пад старшынствам Рыгора Вячэрскага? Прагучалі лічбы, што характарызуюць стан рэспублікі пасля аварыі. Названы факты (не новыя для нас) пра будаўніцтва ў забруджаных раёнах. Прагучалі прозвішчы (таксама не ўпершыню) тых, хто тую вясну, тое лета, ды і потым, заклікаў не панікаваць, не хвалявацца, хто любымі сродкамі імкнуўся затрымаць людзей у зоне бяды, хто заклікаў іх араць і сеяць на атручанай зямлі, узнаўляць атруту ў выніках сваёй працы, каб потым разнесці яе па свеце. Адміністрацыйна-камандная сістэма каторы ўжо раз прадэманстравала сваю непавагу да чалавека, свае прэтэнзіі на валоданне ісцінай нават тады, калі аб гэтай ісціне няма ніякага ўяўлення. І Чарнобыль яшчэ раз пацвердзіў гэта. Ці ва ўсіх ёсць мужнасць гэта прызнаць? Вывады камісіі: дзейнасць службовых і іншых адказных асоб, прызваных прыняць поўныя і эфектыўныя меры па ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС, у радзе выпадкаў з'яўляецца безадказнай і злачыннай, ступень віны кожнага з іх павінна высветліць Пракуратура краіны і рэспублікі. Камісія палічыла няпоўнай і неаб'ектыўнай ацэнку маштабаў трагедыі, выказалася за спыненне выкарыстання забруджаных зямель.

«Навошта такія разборы, навошта даследаванні тых падзей, якія былі пяць гадоў назад, ці дасць гэта паратунак?» — пытаўся з трыбуны сесіі член камісіі Сяргей Навумчык і адказваў: «Магчыма, і не варта б было вярэдзіць раны, калі б сёння не працягвалі дзейнічаць схемы, мадэлі, што склаліся раней. Зноў вырошчваецца ўраджай на забруджанай тэрыторыі, а вінаватага не знайсці. Камісія не ставіла перад сабой задачу некага пакараць ці, наадварот, рэабілітаваць. Але праўду аб сабе мы павінны ведаць — каб не дапусціць мутацый сумлення, не замацаваць іх, як норму».

Чаго ж было больш пры абмеркаванні праблемы — клопату пра сумленную ацэнку падзей, пра гаротны стан сённяшніх заложнікаў трагедыі — ці палітычных гульняў, імкнення набыць пэўны палітычны капітал, як падкрэслівалі некаторыя прамоўцы?

Адкінем палярныя меркаванні — яны, як заўсёды, далей за ўсё ад ісціны. (Г. Яскевіч, напрыклад, палічыў даклад «чарговай нажыўкай для палітычнага фарсу», заклікаў «спыніць балаган», расфарміраваць камісію, стварыць новую, дзе былі б «кампетэнтныя нармальныя людзі». Некаторыя прадстаўнікі апазіцыі багата перасыпалі свае прамовы згадкамі пра злачынствы партыйнай наменклатуры, «атамнай мафіі»). Усё ж уяўляецца найбольш правільным паслухаць тых, хто па роду сваёй прафесіі ведае ўсю згубнасць уздзеяння радыяцыі на людзей, хто з дня ў дзень прапускае людскі боль праз свае душы.

**І. Драбышэўская:**

— Грубейшыя памылкі дапускаліся з першых дзён аварыі. Сёння гучаць розныя меркаванні — ці павінны адказваць вінаватыя? Я лічу, павінны, і ў абавязковым парадку. Не трэба крыві, не трэба нікога ставіць да сцяны. Але хто супакоіць мацярок, у якіх дзеці захварэлі на рак шчытападобнай залозы? Лічу, што да той пары, пакуль будзе ў грамадстве поўная беспакаранасць, мы ніколі не навучымся адказваць за тое, за што кожны адказваць павінен. Камісія пакуль папрацавала недастаткова. Называюцца прозвішчы фактычна палітычных трупаў. Але ж жывуць і няблага сябе адчуваюць людзі, вінаватыя ў тым, што адбылося.

Канешне, трэба рабіць карэктывы на час. Але ж тры гады ў рэспубліцы гаварылі, што ўсё ў нас добра, а ўрачы ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях непісьменныя.

...Адзін за адным высаджваліся ў забруджаных абласцях дэсанты, праводзіліся экспертызы, траціліся на гэта мільёны. Чаму мы не пусцілі іх на набыццё вітамінаў, лекаў, абсталявання?

Трэба ва ўсім разабрацца без злосці, без скрыгату зубамі... Камісія не павінна спыняць сваёй работы.

**Л. Звераў:**

— Жаданне расплаты — не самае лепшае чалавечае пачуццё. Але гэта дапаможа не дапусціць паўтарэння падобнага ў будучым.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# ДАГАВОР АБ САЮЗЕ СУВЕРЭННЫХ ДЗЯРЖАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Вызначэнне стратэгіі сацыяльна-эканамічнага развіцця Саюза і стварэнне ўмоў для фарміравання агульнасаюзнага рынку; правядзенне адзінай фінансавай, крэдытнай, грашовай, падатковай, страхавой і цэнавай палітыкі, заснаванай на агульнай валюце; стварэнне і выкарыстанне залатога запасу, алмазнага і валютнага фондаў Саюза; распрацоўка і ажыццяўленне агульнасаюзных праграм; кантроль за выкананнем саюзнага бюджэту і грашовай эмісіі; стварэнне агульнасаюзных фондаў рэгіянальнага развіцця і ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў і катастроф; стварэнне стратэгічных рэзерваў; вядзенне адзінай агульнасаюзнай статыстыкі.

— Распрацоўка адзінай палітыкі і балансу ў галіне паліўна-энергетычных рэсурсаў, кіраванне энергетычнай сістэмай краіны, магістральным газанафтаправодным, агульнасаюзным чыгуначным, паветраным і марскім транспартам; устанаўленне асноў прыродавыкарыстання і ахова навакольнага асяроддзя, каардынацыя дзеянняў у галіне кіравання воднай гаспадаркай і рэсурсамі міжрэспубліканскага значэння.

— Вызначэнне асноў сацыяльнай палітыкі па пытаннях занятасці, міграцыі, умоў працы і яе аховы, сацыяльнага забеспячэння і страхавання, народнай адукацыі, аховы здароўя; устанаўленне адзінага парадку пенсіённага забеспячэння і захоўвання іншых сацыяльных гарантый пры пераездзе грамадзян з адной рэспублікі ў другую; устанаўленне адзінага парадку індэксацыі даходаў і гарантаванага пражытачнагаа мінімуму.

— Арганізацыя фундаментальных навуковых даследаванняў і стымуляванне навукова-тэхнічнага прагрэсу, устанаўленне агульных прынцыпаў і крытэрыяў падрыхтоўкі і атэстацыі навуковых і педагагічных кадраў; вызначэнне агульнага парадку выкарыстання лячэбных сродкаў і методык; садзейнічанне развіццю і ўзаемаабагачэнню нацыянальных культур; захаванне спрадвечнага жыццёвага асяроддзя малакольасных народаў, умоў іх эканамічнага і культурнага развіцця.

— Кантроль за выкананнем Канстытуцыі і законаў Саюза, указаў Прэзідэнта, рашэнняў, якія прымаюцца ў рамках саюзнай кампетэнцыі; стварэнне агульнасаюзнай крыміналістычнай улікова-інфармацыйнай сістэмы; арганізацыя барацьбы са злачынствамі, якія ўчыняюцца на тэрыторыі некалькіх рэспублік; вызначэнне адзінага рэжыму арганізацыі папраўчых устаноў.

**Артыкул 7. Парадак ажыццяўлення паўнамоцтваў дзяржаўных органаў Саюза і сумесных паўнамоцтваў дзяржаўных органаў Саюза і рэспублік**

Паўнамоцтвы, прама не аднесеныя артыкуламі 5-м і 6-м да выключнага ведання органаў улады і кіравання Саюза або да сферы сумеснай кампетэнцыі органаў Саюза і рэспублік, застаюцца ў веданні рэспублік і ажыццяўляюцца імі самастойна або на аснове двухбаковых і шматбаковых пагадненняў паміж імі. Пасля падпісання Дагавора праводзіцца адпаведнае змяненне паўнамоцтваў органаў кіравання Саюза і рэспублік.

Удзельнікі Дагавора зыходзяць з таго, што па меры станаўлення агульнасаюзнага рынку скарачаецца сфера непасрэднага дзяржаўнага кіравання эканомікай. Неабходнае пераразмеркаванне або змяненне аб'ёму паўнамоцтваў органаў кіравання будзе ажыццяўляцца са згоды дзяржаў, якія ўтвараюць Саюз.

Спрэчкі па пытаннях ажыццяўлення паўнамоцтваў саюзных органаў або рэалізацыі правоў і выканання абавязкаў у галіне сумесных паўнамоцтваў органаў Саюза і рэспублік вырашаюцца пры дапамозе пагаджальных працэдур. Пры недасягненні згоды спрэчкі выносяцца на разгляд Канстытуцыйнага Суда Саюза.

Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, удзельнічаюць у рэалізацыі паўнамоцтваў саюзных органаў пры дапамозе сумеснага фарміравання апошніх, а таксама спецыяльных працэдур узгаднення рашэнняў і іх выканання.

Кожная рэспубліка можа шляхам заключэння пагадненяя з Саюзам дадаткова дэлегаваць яму ажыццяўленне асобных сваіх паўнамоцтваў, а Саюз са згоды ўсіх рэспублік перадаць адной або некалькім з іх ажыццяўленне на іх тэрыторыі асобных сваіх паўнамоцтваў.

Пытанні, аднесеныя да кампетэнцыі саюзных органаў, вырашаюцца імі непасрэдна. Пытанні, аднесеныя да сумеснай кампетэнцыі, вырашаюцца пры абавязковым узгадненні органамі ўлады і кіравання Саюза і ўтвараючых яго дзяржаў.

**Артыкул 8. Уласнасць**

Саюз і дзяржавы, якія яго ўтвараюць, забяспечваюць свабоднае развіццё, абарону ўсіх форм уласнасці і ствараюць умовы для функцыяніравання прадпрыемстваў і гаспадарчых арганізацый у рамках адзінага агульнасаюзнага рынку.

Зямля, яе нетры, воды, іншыя прыродныя рэсурсы, раслінны і жывёльны свет з'яўляюцца ўласнасцю рэспублік і неад'емным набыткам іх народаў. Парадак выкарыстання, валодання і распараджэння імі (права ўласнасці) устанаўліваецца заканадаўствам рэспублік.

Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, замацоўваюць за ім аб'екты дзяржаўнай уласнасці, неабходныя для ажыццяўлення паўнамоцтваў, ускладзеных на саюзныя органы ўлады і кіравання.

Дзяржаўная ўласнасць, якая знаходзіцца ў веданні Саюза, з'яўляецца сумеснай уласнасцю ўтвараючых яе дзяржаў і выкарыстоўваецца ў іх агульных інтарэсах, у тым ліку — у інтарэсах паскоранага развіцця адстаючых рэгіёнаў.

Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, маюць права на сваю долю ў залатым запасе, алмазным і валютным фондах Саюза, якія ёсць у момант заключэння гэтага Дагавора. Іх удзел у далейшым накапленні і выкарыстанні скарбаў вызначаецца асобымі пагадненнямі.

**Артыкул 9. Саюзныя падаткі і зборы**

Для фінансавання дзяржаўнага бюджэту Саюза і іншых расходаў, звязаных з рэалізацыяй яго паўнамоцтваў, устанаўліваюцца саюзныя падаткі і зборы ў размерах, якія вызначаюцца па ўзгадненню з рэспублікамі, а таксама іх долевыя адлічэнні на агульнасаюзныя праграмы. Аб'ём і назначэнне апошніх рэгулююцца пагадненнямі паміж Саюзам і рэспублікамі з улікам паказчыкаў іх сацыяльна-эканамічнага развіцця.

**Артыкул 10. Канстытуцыя Саюза**

Асновай Канстытуцыі Саюза з'яўляецца гэты Дагавор.

**Артыкул 11. Законы**

Законы Саюза, канстытуцыі і законы дзяржаў, яго ўтвараючых, не павінны супярэчыць палажэнням гэтага Дагавора.

Законы Саюза па пытаннях яго ведання валодаюць вяршэнствам і абавязковыя для выканання на тэрыторыі рэспублік.

Законы рэспублікі валодаюць вяршэнствам на яе тэрыторыі па ўсіх пытаннях, за выключэннем тых, якія аднесены да ведання Саюза.

Рэспубліка мае права прыпыніць дзеянне на сваёй тэрыторыі Закона Саюза і апратэставаць яго, калі ён парушае гэты Дагавор, супярэчыць Канстытуцыі або законам рэспублікі, прынятым у межах яе паўнамоцтваў.

Саюз мае права апратэставаць і прыпыніць дзеянне закона рэспублікі, калі ён парушае гэты Дагавор, супярэчыць Канстытуцыі або законам Саюза, прынятым у межах яго паўнамоцтваў.

Спрэчкі ў абодвух выпадках вырашаюцца пры дапамозе пагаджальных працэдур або перадаюцца ў Канстытуцыйны Суд Саюза.

## III. ОРГАНЫ САЮЗА

**Артыкул 12. Фарміраванне органаў Саюза**

Саюзныя органы ўлады і кіравання фарміруюцца на аснове свабоднага волевыяўлення народаў і прадстаўніцтва дзяржаў, якія ўтвараюць Саюз. Яны дзейнічаюць у строгай адпаведнасці з палажэннямі гэтага Дагавора і Канстытуцыі Саюза.

**Артыкул 13. Вярхоўны Савет Саюза ССР**

Заканадаўчую ўладу Саюза ажыццяўляе Вярхоўны Савет Саюза ССР, які складаецца з дзвюх палат: Савета Рэспублік і Савета Саюза.

Савет Рэспублік фарміруецца з прадстаўнікоў рэспублік, якія дэлегуюцца іх вышэйшымі органамі ўлады. Рэспублікі, што ўваходзяць у Саюз непасрэдна, маюць роўную колькасць месцаў у палаце. Усе рэспублікі, уключаючы тыя, у саставе якіх ёсць іншыя рэспублікі, маюць па аднаму голасу. Парадак выбрання прадстаўнікоў і іх квоты вызначаюцца ў спецыяльным пагадненні рэспублік і выбарчым Законе Саюза ССР.

Савет Саюза выбіраецца насельніцтвам усёй краіны па выбарчых акругах з роўнай колькасцю выбаршчыкаў.

Палаты Вярхоўнага Савета Саюза сумесна ўносяць змяненні ў Канстытуцыю СССР; прымаюць у састаў СССР новыя дзяржавы; вызначаюць асновы ўнутранай і знешняй палітыкі Саюза; зацвярджаюць саюзны бюджэт і справаздачу аб яго выкананні; аб'яўляюць вайну і заключаюць мір; зацвярджаюць змяненні граніц Саюза.

Савет Рэспублік прымае законы аб арганізацыі і парадку дзейнасці саюзных органаў; разглядае пытанні адносін паміж рэспублікамі; ратыфікуе міжнародныя дагаворы Саюза ССР; выбірае Канстытуцыйны Суд Саюза ССР; дае згоду на назначэнне Кабінета міністраў Саюза ССР.

Савет Саюза разглядае пытанні забеспячэння правоў і свабод грамадзян СССР і прымае законы па ўсіх пытаннях, за выключэннем тых, якія адносяцца да кампетэнцыі Савета Рэспублік.

Законы, прынятыя Саветам Саюза, уступаюць у сілу пасля адабрэнння Саветам Рэспублік. Калі закон, прыняты Саветам Саюза, не атрымае адабрэння ў Савеце Рэспублік, ён разглядаецца паўторна ў Савеце Саюза і ўступае ў сілу пры ўмове галасавання за яго зацвярджэнне не менш дзвюх трацей дэпутатаў гэтай палаты.

**Артыкул 14. Прэзідэнт Саюза Савецкіх Суверэнных Рэспублік**

Прэзідэнт Саюза — глава саюзнай дзяржавы, які валодае вышэйшай выканаўча-распарадчай уладай.

Прэзідэнт Саюза выступае гарантам выканання Саюзнага дагавора, Канстытуцыі і законаў Саюза; з'яўляецца галоўнакамандуючым Узброенымі Сіламі Саюза; прадстаўляе Саюз у адносінах з замежнымі краінамі; ажыццяўляе кантроль за выкананнем міжнародных абавязацельстваў Саюза.

Прэзідэнт выбіраецца грамадзянамі Саюза на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні тэрмінам на 5 гадоў і не больш чым на два тэрміны запар. Выбраным лічыцца кандыдат, які атрымаў больш паловы галасоў выбаршчыкаў, прыняўшых удзел у галасаванні ў цэлым па Саюзу і ў большасці ўтвараючых яго дзяржаў.

**Артыкул 15. Віцэ-прэзідэнт Саюза ССР**

Віцэ-прэзідэнт Саюза ССР выбіраецца разам з Прэзідэнтам Саюза ССР. Віцэ-прэзідэнт Саюза выконвае па паўнамоцтву Прэзідэнта Саюза асобныя яго функцыі і замяшчае Прэзідэнта СССР у выпадку яго адсутнасці і немагчымасці ажыццяўлення ім сваіх абавязкаў.

**Артыкул 16. Кабінет міністраў Саюза ССР**

Кабінет міністраў Саюза — калегіяльны орган выканаўчай улады Саюза, які падпарадкаваны Прэзідэнту Саюза і нясе адказнасць перад Вярхоўным Саветам.

Кабінет міністраў фарміруецца Прэзідэнтам Саюза па ўзгадненню з Вярхоўным Саветам Саюза.

У рабоце Кабінета міністраў Саюза могуць удзельнічаць з правам рашаючага голасу главы ўрадаў рэспублік.

**Артыкул 17. Канстытуцыйны Суд Саюза ССР**

Канстытуцыйны суд Саюза разглядае пытанні аб адпаведнасці заканадаўчых актаў Саюза і рэспублік, Указаў Прэзідэнта Саюза і прэзідэнтаў рэспублік, нарматыўных актаў Кабінета міністраў Саюза Саюзнаму дагавору і Канстытуцыі Саюза, а таксама вырашае спрэчкі паміж Саюзам і рэспублікамі, паміж рэспублікамі.

**Артыкул 18. Саюзныя (федэральныя) суды**

Саюзныя (федэральныя) суды — Вярхоўны Суд Саюза Савецкіх Суверэнных Рэспублік, Вышэйшы арбітражны суд Саюза, суды ва Узброеных Сілах Саюза.

Вярхоўны Суд Саюза і Вышэйшы арбітражны суд Саюза ажыццяўляюць судовую ўладу ў межах паўнамоцтваў Саюза. Старшыні вышэйшых судовых, арбітражных органаў рэспублік уваходзяць па пасадзе адпаведна ў састаў Вярхоўнага Суда Саюза і Вышэйшага арбітражнага Суда Саюза.

**Артыкул 19. Пракуратура Саюза ССР**

Нагляд за выкананнем заканадаўчых актаў Саюза ажыццяўляецца Генеральным пракурорам Саюза, Генеральнымі пракурорамі (пракурорамі) рэспублік і падначаленымі ім пракурорамі.

Генеральны пракурор Саюза назначаецца Вярхоўным Саветам Саюза і яму падсправаздачны.

Генеральныя пракуроры (пракуроры) рэспублік назначаюцца іх вышэйшымі заканадаўчымі органамі і ўваходзяць па пасадзе ў састаў калегіі Пракуратуры Саюза. У сваёй дзейнасці па нагляду за выкананнем саюзных законаў яны падсправаздачны як вышэйшым заканадаўчым органам сваіх дзяржаў, так і Генеральнаму пракурору Саюза.

## IV. ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 20. Афіцыяльная мова Саюза Савецкіх Суверэнных Рэспублік**

Рэспублікі самастойна вызначаюць сваю дзяржаўную мову (мовы).

Афіцыяльнай мовай Саюза ўдзельнікі Дагавора прызнаюць рускую мову.

**Артыкул 21. Сталіца Саюза**

Сталіцай Саюза ССР з'яўляецца горад Масква.

**Артыкул 22. Дзяржаўная сімволіка Саюза**

Саюз ССР мае дзяржаўны Герб, Флаг і Гімн.

**Артыкул 23. Уступленне Дагавора ў сілу.**

Гэты Дагавор адабраецца вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады дзяржаў, якія ўтвараюць Саюз, і ўступае ў сілу з моманту падпісання іх паўнамоцнымі дэлегацыямі.

Для дзяржаў, яго падпісаўшых, з той жа даты лічыцца страціўшым сілу Дагавор аб утварэнні Саюза ССР 1922 года.

З уступленнем Дагавора ў сілу для дзяржаў, падпісаўшых яго, дзейнічае рэжым найбольшага спрыяння.

Адносіны Саюза Савецкіх Суверэнных Рэспублік і рэспублік, якія ўваходзяць у састаў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, але не падпісалі гэты Дагавор, падлягаюць урэгуляванню на аснове дзеючага заканадаўства Саюза ССР, узаемных абавязацельстваў і пагадненняў.

**Артыкул 24. Адказнасць па Дагавору**

Саюз і дзяржавы, якія яго ўтвараюць, нясуць узаемную адказнасць за выкананне прынятых абавязацельстваў і пакрываюць урон, прычынены парушэннямі гэтага Дагавора.

**Артыкул 25. Парадак змянення Дагавора**

Гэты Дагавор або асобныя яго палажэнні могуць быць адменены, зменены або дапоўнены толькі са згоды ўсіх дзяржаў, якія ўтвараюць Саюз.

**Артыкул 26. Пераемнасць вышэйшых органаў Саюза**

У мэтах забеспячэння непарыўнасці дзяржаўнай улады і кіравання вышэйшыя заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік захоўваюць свае паўнамоцтвы надалей да сфарміравання вышэйшых дзяржаўных органаў Саюза Савецкіх Суверэнных Рэспублік у адпаведнасці з гэтым Дагаворам і новай Канстытуцыяй СССР.

*Вяртаючыся да надрукаванага*

# Рэпліка. Дзеля чаго?

У газеце «Звязда» за 24 красавіка гэтага года І. Катляроў — першы намеснік загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ, доктар сацыялогіі — у рэпліцы «Вучоны, не пладзі цемру» дакарае «Народную газету» за прамаруджванне з надрукаваннем яго матэрыялу і за тое, што яна «запрашае людзей да дыскусіі і ў той жа час не публікуе непажаданыя рэдкалегіі думкі». Мала таго, тав. Катляроў заўважыў, што выпадак гэты не адзінкавы.

Пасля такой прадмовы ў недасведчанага чытача не застаецца ніякіх сумненняў, што «Народная газета» ганебна збегла з поля палемічнага бою. Што вельмі і вельмі далёка ад праўды. Майму апаненту дастаткова было б паглядзець у нумар газеты за папярэдні дзень, каб пераканацца ў адваротным. Тая самая рэдкалегія, якую абвінавачвае ў маладушнасці доктар сацыялогіі І. Катляроў, не пашкадавала газетнай паласы для палемікі з двума вучонымі з Інстытута гісторыка-палітычных даследаванняў Кампартыі Беларусі. І зусім не паніка ў радах «НГ» перашкодзіла надрукаваць рэпліку доктара сацыялогіі І. Катлярова, а элементарныя клопаты аб трохстах тысячах чытачоў — нельга ж іх кожны дзень карміць адной палемікай!

Але чым жа ўсё-такі была выклікана рэпліка і што запаліла палемічны зарад вучонага? Адказ мы знойдзем у самога тав. І. Катлярова: «У артыкуле «Свабода друку — і побач шыбеніца» («НГ», 13 сакавіка 1991 года) А. Майсеня абрушыўся на сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя на XXXI з'ездзе КПБ». Так і сказана — абрушыўся.

Каб вам, паважаныя чытачы, было лягчэй разабрацца ў гэтай сітуацыі, прывяду слова ў слова тое, што тады сказаў: «На XXXI з'ездзе КПБ сярод дэлегатаў было праведзена апытанне, вызначаліся ў тым ліку і адносіны да рэспубліканскай прэсы. У выніку самая высокая катыроўка — 38,6 працэнта — аказалася ў «Политического собеседника». Вось і ўсё. Як бачыце, нічога заганнага. Вынікі апытання, заўважу, я ўзяў напярэдадні з партыйных газет. Калектыву сацыёлагаў з ЦК, здавалася б, толькі быць удзячнымі за тое, што вынікі іх працы папулярызуюць у іншых газетах. А іх кіраўнік, наадварот, у «контры» кінуўся. Суцэльнае непаразуменне.

У чым жа тут справа? Паколькі доктар сацыялогіі І. Катляроў замоўчвае некаторыя абставіны, мы вымушаны адказаць за яго — яму не падабаецца той вывад, які мы зрабілі, зыходзячы з вынікаў яго апытання, — калі вядомы сваёй артадаксальнасцю і ваяўнічым камунізмам «Политический собеседник» карыстаецца такой папулярнасцю сярод дэлегацкага корпуса, значыць паміж імі назіраецца падабенства душ.

Можа, я нечым паграшыў супраць логікі і здаровага сэнсу, робячы такі вывад? Тады трэба вывесці мяне на чыстую ваду. Але ў тым і бяда, што, апрача раздражнення ад непажаданых для ЦК вывадаў, прыведзеных у маім артыкуле, доктар сацыялогіі нічога не выяўляе.

У пісьме І. Катлярова ў рэдакцыю «НГ» я меў гонар быць названым «майстрам віртуозных маніпуляцый грамадскай думкай». Розуму не дабяру, з якой нагоды такая пашана? І зноў жа звернемся за даведкай да аўтара рэплікі. «Аглядальнік «Народнай газеты», кандыдат філасофскіх навук Анатоль Майсеня, працуючы на Беларускім тэлебачанні, займаўся, апрача ўсяго іншага, і вывучэннем грамадскай думкі. Трэба даказаць высокую папулярнасць Беларускага народнага фронту? Калі ласка. Бяруцца тры спецыфічныя калектывы, праводзяцца «даследаванні» — і на экраны тэлевізараў у час праграмы «Пульс» выплываюць зусім фантастычныя лічбы, якія ў дзесяткі разоў адрозніваюцца ад сапраўдных. Трэба «пацвердзіць» непапулярнасць нейкіх палітычных структур? А. Майсеня тут як тут».

Атарапеласць бярэ ад такога — тут ужо не крытыка, тут мне гатовы вердыкт вынесены ў навуковай негрунтоўнасці і несумленнасці. Адно выратоўвае — да такіх абвінавачванняў ад таварышаў з ЦК мне не прывыкаць, на гэты кошт я ўжо добрую загартоўку атрымаў. Тая самая праграма «Пульс», якую ўспамінае ў сваёй рэпліцы І. Катляроў і ў якой быў прыведзены рэйтынг папулярнасці розных палітычных партый і рухаў, у тым ліку КПБ і БНФ, стала ў свой час прадметам «усебаковага» і даволі-такі сумнага разбору ў самых высокіх партыйных інстанцыях. Неаднойчы запрашалі мяне пакаяцца ва ўчыненым. Толькі ў чым мне трэба было раскайвацца, я так і не змог даўмецца. А растлумачыць мне таксама не змаглі.

Нават спецыяльная запіска Кантрольнай камісіі ЦК КПБ была падрыхтавана з выпадку перадачы. А на ёй рукой самога Я. Сакалова, тагачаснага першага сакратара ЦК КПБ, напісана — «Разабрацца і далажыць».

І вось цяпер мне прыпамінаюць старое. Тое, што не выйшла тады ў Кантрольнай камісіі ЦК па свежых слядах, доктар сацыялогіі І. Катляроў робіць цяпер, праз паўтара года — з дапамогай дарэмшчыны і выдумак. Але ж тое даследаванне праводзілася не ў трох, а ў 24-х калектывах і групах у чатырох гарадах рэспублікі, і яго вынікі грунтаваліся на адказах больш чым паўтары тысячы рэспандэнтаў.

Дарэмшчына, як вядома, страшней за выдумкі. Можна зразумець тав. І. Катлярова, намесніка загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК, які па інерцыі прынцып партыйнасці ставіць вышэй за ўсе іншыя прынцыпы. Але як зразумець вучонага І. Катлярова, доктара сацыялогіі, для якога ісціна павінна быць даражэй за любыя партыйныя прыхільнасці? Не паддаецца разуменню, калі, канешне, не ўлічваць, што сацыялогія да нядаўняга часу была самай што ні ёсць партыйнай навукай, і яна верна служыла ў гэтай якасці вышэйшым інтарэсам партыі.

**А. МАЙСЕНЯ,**
**аглядальнік «Народнай газеты».**

# Глядзець на падзеі сумленна

За некалькі дзён да рэферэндуму пра будучае Саюза «Народная газета» апублікавала артыкул «Улада вачамі чытачоў», у якім сцвярджала, што, адпаведна даным сацыялагічнага даследавання, за абноўлены Саюз будуць галасаваць 44 працэнты, супраць — таксама 44 працэнты. «Беларусская молодежная» ў суботу напярэдадні рэферэндуму паўтарыла гэтыя лічбы яшчэ раз. Сёння вынікі вядомыя — свае галасы Саюзу аддалі 82 працэнты. Зусім магчыма, што тое «даследаванне» ўвойдзе ў падручнікі як прыклад тыповай фальсіфікацыі і выкарыстання сацыялогіі ў палітычных мэтах. Прычым такіх «апытанняў агульнай думкі» ў рэспубліцы набіраецца даволі многа.

Мяне заўсёды здзіўляла і абурала жанглiраванне сацыялагічнымі данымі ў пэўных мэтах. Выказаў гэту думку ў артыкуле, накіраваным у «Народную газету», тым больш, што яна пастаянна запрашала сваіх чытачоў да дыскусіі. Аднак на працягу цэлага месяца супрацоўнікі газеты не знайшлі часу паставіць мяне ў вядомасць аб лёсе артыкула. На ўсе званкі ў рэдакцыю адказвалі, што яны не ведаюць, дзе артыкул і што з ім. Тым часам насілле над сацыялогіяй працягвалася. Прыйшлося апублікаваць гэты матэрыял у «Звяздзе». Вось тады знайшоўся час у рэдакцыі «Народнай газеты» і яе аглядальніка А. Майсені. Праўда, дыскусія аб канкрэтных сацыялагічных даследаваннях набыла занадта палітычны і асабісты характар. «Народная газета» праз два дні апублікавала рэпліку «У «Народнай газеце» няма прывілей для партапарату», зводзячы праблемы маніпуліравання грамадскай думкай да сваёй любімай тэмы аб жыцці супрацоўнікаў апарату КПБ. А. Майсеня наогул стаў вельмі старанна расшукваць маю доктарскую дысертацыю, каб выкапаць адтуль нейкія спрэчныя, на яго погляд, думкі. Уся ж палеміка з двума вучонымі з Інстытута гісторыка-палітычных даследаванняў КПБ, на якую спасылаецца апанент, звялася да капання ў бруднай бялізне: што напісаў той або іншы аўтар трыццаць гадоў назад.

На жаль, і сёння цікавая атрымліваецца ў нас з Майсенем дыскусія. Ён ні слова не піша пра тыя сацыялагічныя даследаванні, якія з'явіліся прычынай артыкула «Вучоны, не пладзі цемру», не ўспамінае аб апытанні, праведзеным у БДУ, адным з мінскіх праектных інстытутаў і на маладзечанскім прадпрыемстве, якое дало вельмі сумніцельныя вынікі, экстрапаліраваныя затым на ўсю рэспубліку.

І апошняе. Нейкі дзіўны падыход да расшырэння галоснасці прапаведуе «Народная газета». Ёй вельмі не спадабалася, што «Политический собеседник» сярод дэлегатаў XXXI з'езда КПБ меў самы высокі рэйтынг, а «Народную газету» многія называлі тэндэнцыйнай і малапрафесіянальнай. Іншыя ж апытанні розных катэгорый насельніцтва паказалі, што вельмі многім рэспандэнтам «Народная газета» не падабаецца, а некаторыя чытаюць яе з задавальненнем. Мне здаецца, што плюралізм трэба толькі вітаць, а не накідвацца са злосцю і крытыкай на чытачоў і прыхільнікаў іншых выданняў.

Не люблю даваць парады, аднак дазвольце ў заключэнне ўсё ж парэкамендаваць «Народнай газеце» і А. Майсеню на ўсе падзеі, якія адбываюцца ў грамадстве, глядзець больш сумленна, аб'ектыўна, а не толькі праз партыйную, нацыянальную або асабісную прызму.

**І. КАТЛЯРОЎ.**




**На адной з вулачак Мінска, на першым паверсе старога «хрушчоўскага» дома размясцілася медыцынская ўстанова, якую людзі «свядомыя» абыходзяць бокам. Тут за сціплай шыльдай «Цэнтра здароўя» размясціліся службы Рэспубліканскага цэнтра па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам.**

**Вялікія надзеі ў вырашэнні ўзнікшых праблем спецыялісты ўскладаюць на рэспубліканскую праграму па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам, якая цяпер рыхтуецца да прыняцця. Але ўжо сёння мы самі сваёй нецярпімасцю і няведаннем, бяздзеяннем кампетэнтных органаў і неразбярыхай у розных інстанцыях можам падштурхнуць ВІЧ-інфіцыраваных на адчайны крок «снідтэрарызму». Калі яны не сустрэнуць падтрымкі і спачування акружаючых, калі ў іх не будзе магчымасці звярнуцца ў спецыялізаваную паліклініку, хворыя СНІДам прыйдуць у звычайныя раённыя лячэбныя ўстановы. І тады вынікі могуць быць непрадказальнымі. Тым больш, што прагнозы савецкіх вучоных на 2000 год маласуцяшальныя: паўтара мільёна — па краіне і 90 тысяч ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі.**

**Н. ПАДЛЕСНАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: у лабараторыі дыягностыкі Рэспубліканскага цэнтра па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам; больш двух мільёнаў аналізаў крыві на СНІД было зроблена ў рэспубліцы за год у лабараторыях дыягностыкі СНІД.**

**Фота В. ВІТЧАНКІ. (БЕЛТА).**

# Не згубіцца ў рознагалоссі

*Партыйныя будні*

**Наш субяседнік — слесар, член ЦК Кампартыі Беларусі, член партбюро ордэна Леніна Нясвіжскай райаграпрамтэхнікі П. КАПЫТКА разважае аб месцы, ролі і прызванні партыйных арганізацый ва ўмовах дэмакратызацыі грамадства.**

**— Раздаюцца галасы аб поўным вывадзе партыйных арганізацый з прадпрыемстваў. Што вы, Пётр Іванавіч, можаце сказаць наконт гэтага?**

— Як вядома, партыя сама заявіла аб рашучай адмове ад падмены органаў гаспадарчага кіравання. Аднак гэта не значыць, што «пярвічкі» павінны выводзіцца з заводаў, фабрык, будоўляў, калгасаў і саўгасаў. Наадварот, іх трэба ўмацоўваць, як цэментуючае ядро працоўных калектываў.

Дарэчы, на XXVIII з'ездзе партыі ў новым Статуце КПСС зацверджаны вытворча-тэрытарыяльны прынцып яе будовы. Спрачацца, думаю, цяпер няма аб чым: гвалтоўнае выгнанне пярвічак з прадпрыемстваў — дзеянне процізаконнае і падлягае асуджэнню. Гэта, між іншым, падкрэслівалася і на XXXI з'ездзе Кампартыі Беларусі, удзельнікам якога я быў.

**— Што найбольш непакоіць Вас у дачыненні да сённяшняй грамадска-палітычнай сітуацыі?**

— Выказванні накшталт: партыйныя арганізацыі не маюць права ўмешвацца ў справы калектыву, асабліва вытворчыя. Дазвольце не пагадзіцца з гэтым. Сыдзе з прадпрыемства партыя — знойдзецца іншая сіла, якая зойме яе месца. Вунь колькі іх, партый і груповак, створана ў апошнія гады. Яны растуць як грыбы пасля спорнага дажджу. А «пярвічкі» КПСС застаюцца актыўнай сілай.

Мяркую па сваёй партарганізацыі. Яна ў нас баяздольная, не стаіць убаку ад вытворчых клопатаў. Не падмяняе кіраўніцтва, а аказвае свой адчувальны ўплыў на справы праз камуністаў, што працуюць у нізавых падраздзяленнях.

Дыктат, некампетэнтнае ўмяшанне, вядома, нашкодзяць, а сумесная са спецыялістамі выпрацоўка разумных рашэнняў пойдзе толькі на карысць.

**— Чым жыве «пярвічка» райаграпрамтэхнікі, якія вырашае праблемы?**

— У нас дзейнічаюць шэсць партыйных груп, якія з'яўляюцца ініцыятарамі добрых пачынанняў. Мы не пайшлі на іх скарачэнне, як гэта зрабілі ў некаторых месцах. Відаць, таму не маем масавага выхаду з партыі. Здалі партбілеты толькі два чалавекі. Іх аргументы? Ды, уласна, ніякіх. Трапілі ў модную плынь, шкадаваць аб іх нам не прыходзіцца

На пасяджэнні партбюро разглядалі пытанні асабістай адказнасці кіраўнікоў-камуністаў за ход і якасць рамонту тэхнікі для гаспадарак раёна. Нягледзячы на складанасці, дэфіцыт запасных частак, калектыў працуе рытмічна, без збояў. У першым квартале бягучага года на лінейку гатоўнасці пастаўлена 260 бульбаўборачных камбайнаў.

На кантролі партарганізацыі пытанні паляпшэння сацыяльна-бытавых умоў, будаўніцтва жылля.

**— Цяпер вядуцца адкрытыя нападкі на КПСС, яе абвінавачваюць ва ўсіх грахах. Што, на ваш погляд, трэба зрабіць, каб вярнуць аўтарытэт партыі?**

— Прапаноў, як вярнуць партыі аўтарытэт, сёння чуецца нямала. Галоўнае я бачу ў тым, каб больш рашуча пераходзіць ад крытыкі, дыскусій да канкрэтных спраў па навядзенню парадку, павышэнню дабрабыту людзей. Не чакаць ніякіх каманд. Паказваць асабісты прыклад у працы, грамадскім жыцці. Як гэта робяць у нас камуністы слесары М. Чырко, К. Дашко, У. Заяц, М. Шаўковіч, токар-рацыяналізатар М. Рудэшка і іншыя. У рабоце яны — бездакорныя, у спрэчках — прынцыповыя, у дружбе — надзейныя.

Сам я працую ў цэху па рамонту бульбаўборачных камбайнаў. Кожны дзень з людзьмі. Ведаю іх настрой, трывогі, думкі. Адчуваю: і беспартыйным неабыякавы лёс КПСС. Яны вераць у яе аднаўленне, у ёй яны бачаць абарону сваіх інтарэсаў.

**— Штат апарату райкома партыі значна скараціўся. Яго работнікі адмовіліся ад дробязнай апекі партарганізацый. Як, на Вашу думку, адчуваюць сябе «пярвічкі»?**

— Адчуваюць, мне здаецца, нядрэнна. Ім дадзена больш самастойнасці ў вырашэнні сваіх задач. Пазбавіліся ад лішняй паператворчасці, фармалізму.

Але мяне асабіста трывожыць іншае: адказныя арганізатары райкома партыі — рэдкія ў нас госці. А іх дапамога, прызнацца шчыра, нам патрэбна. Свае планы і намеры мы павінны звяраць з галоўнымі напрамкамі дзейнасці райкома партыі.

Мы не навучыліся яшчэ прадугледжваць падзеі і апярэджваць іх. Нярэдка спазняемся там, дзе трэба спяшацца, ісці ў нагу з жыццём. Я маю на ўвазе перш за ўсё растлумачальную выхаваўчую работу ў працоўных калектывах. Асабліва цяпер, з пераходам да рыначных адносін.

Словам, без актыву нам не абысціся. Ну, а задачы ў яго цяпер, вядома, іншыя. Не тыя, што былі пяць-шэсць гадоў назад. Бо ідзе барацьба ідэй, барацьба думак, адстойванне перакананняў і пазіцый. Як ніколі неабходна згуртоўваць ідэалагічныя сілы ў адзін кулак.

Не трэба баяцца сустрэч з людзьмі, папрокаў, пытанняў. Цесныя кантакты з імі толькі ўзбагацяць нас. Час ужо навучыцца слухаць апанентаў, дабівацца, каб і цябе слухалі і разумелі.

**Г. КРЭСКІЯН.**

